# ПАГОНЯ

Чацвер
15 лютага 2001 г.
№ 7 (503)
Кошт 80 рублёў

## Міліцыянты мерзнуць на магіле Дубко

**На магіле Аляксандра Дубко, пахаванага сёмага лютага ва ўрочышчы «Сакрэт», ужо тыдзень стаіць міліцэйская ахова. Міліцыянты дзяжураць ля магілы круглыя суткі ў дзве змены. Змена для двух міліцыянтаў цягнецца 12 гадзін. Адна з асноўных задачаў стражаў парадку - ахоўваць на магіле вянкі, сярод якіх ёсць і вянок ад Аляксандра Лукашэнкі.**

Мы паспрабавалі ўдакладніць, як доўга давядзецца супрацоўнікам міліцыі знаходзіцца ля магілы Аляксандра Дубко. Аднак намеснік начальніка міліцыі Кастрычніцкага РАУС Гродна Юрый Якоўчыц, як сапраўдны беларускі «мент», у адказ на пытанне папросту кінуў тэлефонную трубку.

Некалі на патрабаванне жыхароў горада спыніць раскраданне з магілаў свечак, кветак, вянкоў, адзін міліцэйскі чын адказаў, што ён не можа выставіць каля кожнай магілы міліцэйскі нарад. Няўжо для таго, каб марадзёры больш не кралі з могілак, трэба абавязкова пахаваць каго-небудзь з высокага чынавенства?

## Дзень памяці беларускіх хлопцаў, якія загінулі ў Афганістане

**Сёння, 15 лютага, Гарадзенскі гарадскі выканаўчы камітэт разам з Беларускім саюзам афганцаў праводзіць ў Гродне шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных Дню памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.**

У 10.30 у гарадскім храме Ціхвінскай Божай маці адбудзецца памінальная паніхіда. У 12 гадзін, прадстаўнікі саюза афганцаў разам з кіраўнікамі горада ўскладуць кветкі да помніка воінам-інтэрнацыяналістам, што на скрыжаванні вуліцаў Курчатава і Горкага. Потым ля помніка адбудзецца ўрачысты мітынг, дзе плануюць узяць удзел мэр Гродна Анатоль Пашкевіч і выконваючы абавязкі старшыні Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта Уладзімір Саўчанка. Пасля мітынга плануецца наведванне магілаў воінаў, якія загінулі ў Афганістане, і канцэрт у Гарадзенскім доме культуры.

У горадзе пражывае 1200 чалавек, што бралі ўдзел у ваенных дзеяннях у Афганістане.

## Гарадзенцы пакрысе перамагаюць грып

**У параўнанні з мінулым аўторкам, колькасць хворых на грып у Гродне знізілася на 30,8 працэнта. Падзенне колькасці захворванняў на грып ды іншыя вострыя рэспіраторныя захворванні ў горадзе назіраецца кожны дзень. У Гарадзенскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі схільныя лічыць, што эпідэмія грыпу ў Гродне ідзе на спад.**

З учарашняга дня закрыты каранцін ў сярэдняй школе N9. У той жа час да 18 лютага абвешчана пра каранцінны стан у сярэдняй школе N13, дзе колькасць школьнікаў, што захварэлі на грып, перасягнула 30 працэнтаў.

**Павал Мажэйка**




15, 16 лютага - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, галалёдзіца, вецер паўночна-заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра 15, 16 лютага - уначы -2...+3, удзень +3...+8.

# З Днём святога Валянціна!




**Учора свята адчувалася з самага ранку. У крамах размяталі паштоўкі з сярдушкамі, а ля шапікаў з кветкамі тоўпіліся прадстаўнікі моцнай паловы чалавецтва - выбіралі самыя прыгожыя ружы, гваздзікі і хрызантэмы. Парачкі пяшчотна трымаліся за рукі, зазіралі адно аднаму ў вочы і цалаваліся - у тралейбусах, ля святлафораў, на прыпынках ды іншых прыдатных для гэтага месцах.**

**Усе закаханыя ўчора святкавалі сваё самае галоўнае свята.**

**- Што для Вас ёсць Дзень святога Валянціна? - запыталіся мы ў гарадзенцаў.**



**Таццяна Кузьміцкая, маладая мама:**

- Гэта свята маладых. Мой муж мне зранку падарыў букет ружаў і паштоўку. Гэта было так прыемна! А увечары...пакуль не ведаю, што нас чакае.



**Аляксандр, беспрацоўны:**

- Выдатнае свята. Але адзначаць яго, як прынята, не даводзіцца. Заўсёды занятыя, занадта шмат нейкіх праблемаў, асабліва ў наш час. Жадаю, каб меней было мітусні, больш спакою. І толькі моцнага кахання.



**Юля Шпак, студэнтка:**

- Дзень святога Валянціна - гэта самае важнае свята, бо гэта дзень усіх закаханых. Кожны чалавек павінен абавязкова каго-небудзь кахаць.



**Дзяніс Прохар, проста студэнт:**

- Гэта звычайны дзень. Дзень Валянціна - гэта каталіцкае свята, а ў праваслаўных ёсць свой уласны культ. І сваю дзяўчыну можна віншаваць кожны дзень, не абавязкова выбіраць для гэтага адзін дзень на год.



**Ганна Шарэйка, вывучае славянскую філалогію:**

- Гэтае свята адзначаю з таго моманту, як зразумела, што такое каханне і сапраўднае сяброўства. Каханаму хлопцу падару сваю ўсмешку.



**Віктар Будрэвіч, інспектар мытні:**

- Вось, куплю падарункі. Анастасіі, дачцы, набыў набор «Маленькая фея». Ірыне, жонцы, набуду пярсцёнак з каменьчыкам. Яны вельмі чакалі гэтае свята. Хацелася б сёння пабыць у хаце з сям'ёй, але, на жаль, не атрымаецца - праца.



**Алена Закрэўская, прадаўшчыца кветак:**

- Гэта самае цудоўнае свята. Я віншую ўсіх, асабліва свайго хлопца, якога вельмі кахаю.

## Пераменаў Вам, Сямён Мікалаевіч!

**Учора моладзевая кааліцыя «Пераменаў» з нагоды Дня святога Валянціна уручыла свае віншаванні Сямёну Домашу. У якасці падарунка Сямён Домаш атрымаў палатняную накідку «Любові! Свабоды! Пераменаў!», касету «Моге кахання», якая была выдадзеная адмыслова да свята і ўрачыстую валянцінку.**

Моладзь Беларусі спадзяецца, што «Любоў, Свабода і Перамены ў вырашальным 2001-м дапамогуць Сямёну Домашу перамагчы нянавісьць, гвалт і хлусьню сёньняшняга рэжыму» - напісана ў віншавальнай валянцінцы.

**Павал Мажэйка**

## Прэзентацыя «Людзей культуры»

**12 лютага ў Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Я.Карскага адбылася прэзентацыя кнігі прафесара Аляксея Пяткевіча «Людзі культуры з Гродзеншчыны».**

Адкрыла імпрэзу загадчыца краязнаўчага аддзела бібліятэкі Любоў Турмасава. У сваім эмацыйным выступе яна параіла бібліятэкарам вобласці ды ўсім аматарам краязнаўства «набыць каштоўны даведнік, бо ён акажа значную дапамогу ў іх шляхетнай працы». Затым вядучая прадставіла аўтара кнігі. Загадчык кафедры беларускай культуры ГрДзУ імя Я.Купалы прафесар Аляксей Пяткевіч распавёў прысутным пра канцэпцыю выдання, над якім ён працаваў 10 гадоў і сабраў кароткія біяграфіі больш за 700 постацяў дзеячаў культуры з Гарадзеншчыны.

Завяршылася прэзентацыя выступленнем ансамбля «Гарадзенькія дударыкі».

**Язэп Ліцьвіновіч**

## Кантора падмачыла сувязь

**У вёсцы Граўжышкі, што на Ашмяншчыне, у абанентаў мясцовай сеткі тэлефоннай сувязі раптоўна змоўклі тэлефоны. Прычынаю таму стала звычайная вада.**

У адміністрацыйным будынку ў вёсцы Граўжышкі на другім паверсе знаходзілася кантора мясцовага калгаса і, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, там узнікла неабходнасць «распаветрыць» сістэму ацяплення. Мясцовыя спецыялісты здзейснілі тое, але, відаць, недастаткова кваліфікавана. Бо як толькі распачалася праверка сістэмы ацяплення, вада заліла не толькі другі паверх, але і першы, дзе знаходзілася сельская АТС. У выніку чаго сельская тэлефонная станцыя перастала працаваць.

**М.Карпейчык**

## У Беларусі шляхта і секс заўсёды ішлі разам

**Учора, у Дзень святога Валянціна, Навукова-даследчая лабараторыя рэгіянальных праблемаў пры Гарадзенскім універсітэце правяла святочны навуковы семінар «Каханне ў гісторыі і культуры Беларусі».**

Даследчыкі падрыхтавалі шэраг займальных дакладаў на разнастайныя тэмы, галоўным стрыжнем якіх было слова «Каханне». А найбольшую цікавасць у прысутных выклікаў выступ Наталлі Слiж «Сексуальнае жыццё шляхты ў Беларусі ў XVI-XVIII стагоддзях».

Прафесар Аляксей Пяткевіч выступіў на тэму «Сям'я, каханне і трагедыя творчых лёсаў у 30-я гады XX стагоддзя». Даследчыца Святлана Куль-Сяльверстава прэзентавала сваю распрацоўку «Ракавая жанчына ў культурным жыцці Беларусі першай паловы XIX стагоддзя». Выступалі з дакладамі таксама Алесь Смалянчук і Святлана Словік.

**Іван Паўлёнак**

# Лукашэнку сабралі грошы на помнік

**«Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз пазнала шчасце, слязу нядолі праліла...» Шырокавядомы сярод гарадзенцаў вулічны музыка, які часцяком насвіствае свае мелодыі на пад ыходах да рынку, гэтым разам бойка наяраваў мелодыю вядомага верша Канстанцыі Буйло ў той час, як сябры моладзевых гарадзенскіх арганізацыяў збіралі грошы на прыжыццёвы помнік Аляксандру Лукашэнку. Гэткую нечаканую ідылію ў мінулую суботу мог бачыць кожны гарадзенец, які апынуўся ў абед ля Дома сувязі.**

«Падтрымаем прэзідэнта» - менавіта так назвала сваю ініцыятыву намесніца старшыні «Маладой Грамады» Святлана Нех і вырашыла правесці пікет, каб распавесці жыхарам Гродна, што ж самае галоўнае забяспечыў нам у нашым жыцці прэзідэнт. Падтрымаць Святлану і прэзідэнта прыйшлі таксама сябры «Маладога Фронту», нядаўна ўтворанай арганізацыі «Моладзь АГП».

Плакат «Лукашэнка - найлепшы муж, мара кожнай жанчыны» выглядаў у руках маладзенькай дзяўчынкі настолькі сакавіта і ненатуральна, што бабуля-пенсіянерка хоць і прачытала яго разы з тры, але так і адышла са словамі «нічго не магу паняць».

«Не крытыкуйце прэзідэнта, ён кіруе як можа», «Не правда, что Лукашенко психбольной, он не лечится», «Все на лыжню в поддержку президента» - плакаты папросту збівалі прахожых з панталыку, «Якая, на фіг, лыжня, снега-та няма», - інтэлект мужчыны не сягаў, відавочна, далей напісанага сінім колерам па белай паперы.

Аднак найбольшыя хваляванні ў масах выклікаў лозунг «Скінемся на помнік Лукашэнку пры жыцці». Найбольш дасціпныя неслі свае рублікі ў імправізаваную скрыню, а экзальтаваныя бабулькі кідаліся ўбок міліцыянтаў з патрабаваннем спыніць, арыштаваць, пасадзіць.

Міліцыянты паводзілі сябе досыць спакойна. Відавочна было, што ім самім цікава наглядаць за незвычайным пікетам. Аднак усё ж не забываліся, што пастаўленыя тут, каб забяспечваць парадак. «Вось зараз дасць яму ў морду, а мы зробім выгляд, што не заўважылі», - капітан прафесійна адрэагаваў на спрэчку, што ўзнікла паміж прахожым і ўдзельнікам пікету. Падпалкоўнік Галаўко наогул ледзь не бегаў з дыктафонам і спрабаваў даказаць Святлане Нех, што яна зняважыла гонар прэзідэнта. Света, у сваю чаргу, прапанавала спадару Галаўко скінуцца на помнік. На што міліцыянт абурыўся: «Яшчэ раз скажаш «міліцыя», і больш тут стаяць не будзеш».

А сабраных грошай, 936 рублёў, відавочна, не стае, каб вырабіць прыстойны помнік, таму амаль адразу пасля пікету «Маладая Грамада» абвесціла сярод жыхароў Беларусі конкурс на лепшы ўзор прыжыццёвага помніка Лукашэнку. Усталяваны ён будзе, як лічыць Святлана Нех, у Свіслачы, на алеі Герояў, дзе не так даўно быў пастаўлены мясцовымі ўладамі бюст Сталіна.

**Павал Мажэйка**



«Лукашэнка найлепшы муж?! Ніччо не магу паняць»



Пікет «Падтрымаем прэзідэнта» спецслужбы здымалі з двух рук




**На чарговым пасяджэнні Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў (КРДС), якое прайшло 8 лютага ў Менску, зноў не было прынята рашэнне аб вылучэнні адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкія выбары. Разгляд гэтага пытання адкладзены да наступнага пасяджэння, якое адбудзецца праз тыдзень.**

**У гутарцы з карэспандэнтам намеснік старшыні БНФ Віктар Івашкевіч сказаў, што члены КРДС не павінны дапусціць стварэння некалькіх перадвыбарчых цэнтраў. «Наша задача - дамовіцца, каб ад апазіцыі быў адзін кандыдат. Прагаласаваць большасцю за аднаго - за Сямёна Домаша - мы маглі б ужо на сённяшнім пасяджэнні, - сказаў Івашкевіч. - Але Міхаіл Чыгір, Уладзімір Ганчарык сказалі б - «мы, нягледзячы ні на што, пойдзем на выбары». Але за імі няма партыйных, палітычных структур, значыць, няма той палітычнай адказнасці, якую нясуць партыі і рухі. Таму КРДС павінен працягваць шукаць кампраміс і дамагацца рашэння аб адзіным кандыдаце».**

**Дарэчы, магчымыя прэтэндэнты ў кандыдаты - Міхаіл Чыгір і Уладзімір Ганчарык былі запрошаны на пасяджэнне КРДС, але не прыйшлі.**

# Выкрыты чарговы замах на А.Лукашэнку

**Беларускія прыхільнікі А.Лукашэнкі выкрылі чарговую замах на жыццё свайго куміра. Дэпутат так званага «парламента» рэспублікі Мікалай Чаргінец заявіў, што амерыканскі кангрэсмен Бар падрыхтаваў пафамільны спіс сусветна вядомых палітычных дзеячаў, якія падлягаюць знішчэнню. У гэты спіс нібыта ўваходзяць Усама бен Ладэн, Слабадан Мілошавіч і А.Лукашэнка. Абураны Чаргінец параіў амерыканскаму парламентарыю «адпачыць у адным з завядзенняў Менска па тыпу вядомай псіхіятрычнай лячэбніцы «Навінкі». Дэпутат Сяргей Касцян заявіў, што пагроза свету зыходзіць у першую чаргу ад амерыканскага сіёнафашызму.**

Расхваляваных «палатнікаў» супакоіў амбасадар Бенларусі ў ЗША Валерый Цапкала. Ён патлумачыў, што ў амерыканскім парламенце рыхтуецца закон аб барацьбе з тэрарызмам. Ніякіх сіёнафашыстоўскіх спісаў кангрэсмен Бар не складаў. Адразу стала зразумелым, што беларускія дзеячы, як заўсёды, пажадалі перакласці з хворай галавы на здаровую. Каму трэба лячыцца ў Навінках?

Хто і каго палохае? Амерыканцы - А.Лукашэнку? Ці наадварот? Чаргінец - амерыканцаў, ці ён жа - А.Лукашэнку? Каб адказаць на гэты пытанні, трэба ўзгадаць, што «сенсацыі» наконт замахаў на А.Лукашэнку з'яўляюцца з перыядычнасцю не радзей, чым раз на год, а то і часцей.

Усе памятаюць знакаміты лёзненскі «замах». Усе памятаюць заявы Аляксандра Рыгоравіча пра тое, што на ягонае жыццё рыхтавалі замахі міністр В.Лявонаў, В.Старавойтаў і далучаныя да іх амбасадары замежных дзяржаваў, якія пражывалі ў Драздах. Перад гэтым некалькі замахаў выявіў вядомы расейскі змагар з капіталізмам і сіянізмам В.Ілюхін, які заяўляў, сярод іншага, што амерыканцы выдалі Сямёну Шарэцкаму дзесяць мільёнаў даляраў за гэтую «замову». Адзін замах выкрыў непасрэдна сам Аляксандр Лукашэнка падчас візіту ў Літву; тады ён заявіў, што ягонае забойства рыхтаваў П.Шарамет...

Відавочна, што страшныя апавяданні пра сіяніцкіх кілераў распаўсюджвае сам беларускі рэжым. Вярхушка ўлады, пасварыўшыся з усім светам, вельмі напалохалася. Усюды ворагі, і краіна ў коле ворагаў, і ўнутры спрэс злыя апазіцыянеры. Нават расейскія саюзнікі нос адварочваюць ад беларускіх змагароў з NATO-жыдоўсай агрэсіяй. У гэтых умовах нават чых амерыканскага кангрэсмена Бара падаецца страшнай пагрозай.

Выйсце адно. Лячыцца сапраўды трэба. Чым хутчэй усвядомяць гэта нашыя выбаршчыкі, тым лепш для хворага.

**Сяргей Самасей**

# Святлане Нех прапанавалі выбраць паміж «судамі і гуртком»

**Актывістка апазіцыйнага моладзевага руху Святлана Нех была вымушаная звольніцца з працы. З гэтай нагоды Гарадзенская філія «Маладой Грамады» распаўсюдзіла заяву з пратэстам супраць псіхалагічнага і адміністрацыйнага ўціску на актыўных прадстаўнікоў моладзі, супраць пазбаўлення іх канстытуцыйнага права на працу.**

У заяве гаворыцца, што 12 лютага кіраўніцтва Цэнтра пазашкольнай працы Ленінскага раёна горада Гродна прымусіла звольніцца адну са сваіх супрацоўніцаў, Святлану Нех.

«Святлана неаднаразова атрымоўвала ў свой бок пагрозы звальнення з працы ў выпадку працягу актыўнага выказвання ёй сваіх грамадска-палітычных поглядаў. Нарэшце ўлады праз кіраўніцтва Цэнтра дамагліся штучнага стварэння такой сітуацыі, калі далейшая праца стала для Святланы немагчымай».

Святлана Нех, актывістка «Маладой Грамады», намесніца старшыні арганізацыі, неаднаразова ўдзельнічала ў апазіцыйных акцыях. Яе судзілі за арганізацыю пікета «Пераменаў» і «Марша свабоды». Яна мае чырвоны дыплом Гарадзенскага педвучылішча. Дзяўчына вяла гурток «Арыгамі» для хворых дзетак з Цэнтру карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі.

- Я звольніў гультая, - **пракаментаваў заяву <u>Аляксандр Бернатовіч</u>, дырэктар Цэнтра пазашкольнай працы.** - Нех адсутнічала на працы 15, 20, 22 і 25 студзеня. 30 студзеня я сам прыйшоў праверыць, як працуе гурток і «пацалаваў» дзверы.

Святлана сцвярджае, што яе прагулы абгрунтаваныя:

- Я мела позвы ў суд, таму, зразумела, не магла прысутнічаць на працы. Але ў Цэнтры мне прапанавалі выбіраць паміж судамі і гуртком.


Святлана Нех

**Ул.інф.**

# Свабодныя прафсаюзы ў свабодным «пралёце»

**Камітэт па інспекцыі працы Гарадзенскай вобласці адмовіўся разглядаць скаргу Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) на адміністрацыю вытворчага аб'яднання «Хімвалакно». Сутнасць скаргі ў тым, што кіраўніцтва прадпрыемства ўхіляецца ад перамоваў з членамі першаснай арганізацыі СПБ для заключэння калектыўнага дагавора, прадугледжанага працоўным заканадаўствам.**

Прычынай адмовы паслужыла тое, што першасная арганізацыя Свабоднага прафсаюза не зарэгістравана ў органах мясцовай улады ў прадугледжаным законам парадку: выканкам толькі пастаўіў яе на ўлік. У бліжэйшы час СПБ мяркуе праз суд абавязаць выканкам зарэгістраваць першасную арганізацыю.

Трэба адзначыць, што з аналагічнымі праблемамі першасныя структуры Свабоднага прафсаюза сутыкаюцца практычна ва ўсіх рэгіёнах краіны. Выканкамы пад любымі маркамі або адмаўляюцца іх рэгістраваць, або ўсяляк зацягваюць гэты працэс. Гэта, у сваю чаргу, параджае канфліктныя сітуацыі на шэрагу прадпрыемстваў, кіраўнікі якіх не жадаюць заключаць дагаворы з «нелегальнымі», як яны лічаць, прафсаюзамі.

**Ірына Леўшына**

ГРАМАДСТВА

# Шэсць дзяўчатаў абвесцілі самагубцамі. Затое паказчыкі ў міліцыі палепшыліся

**Амаль год таму, мінулай вясною, пачалася серыя знікненняў і, як потым высветлілася, смярцей маладых гарадзенскіх дзяўчатаў. Гісторыя атрымалася жудасная. Аднак развязкі ды пакарання вінаватых пакуль не відаць. Больш таго. Міліцыя ўпарта лічыць гэтых дзяўчатаў самазабойцамі...**

Самая малодшая з астатніх пяці ахвяраў, 16-гадовая Вольга Шор, як гаворыць яе матуля, любіла жыццё і была жыццярадаснай дзяўчынкай, у якой было шмат планаў на будучыню:

- Яна павінна была жыць... Я не зміруся з яе смерцю і буду шукаць вінаватага...

У тую трагічную пятніцу, 14 красавіка, Воля пайшла на сустрэчу з хлопцам і больш не вярнулася. Апошні раз яе бачылі ў кафэ «Бочка», што на вуліцы Урыцкага. Цела дзяўчыны знайшоў праз тры дні рыбак на беразе Нёмана ў раёне вёскі Зарыца.



Цела Вольгі Гарашчук знайшлі ў Нёмане праз тры тыдні пасля наведвання кафе «Мока» другога красавіка 2000 года



Вольга Шор. Апошні раз яе бачылі жывой у кафэ «Бочка» 14 красавіка мінулага года. Праз тры дні яе цела знайшлі на беразе Нёмана...

Другога чысла таго ж месяца знікла 21-гадовая Вольга Гарашчук. У той вечар яна выйшла з кафэ «Мока» з маладым чалавекам. Мяркуецца, што дзяўчына спыніла таксі з намерам ехаць дахаты. З гэтага моманту ейныя сляды губляюцца. Праз тры дні бацькі Вольгі звярнуліся ў міліцыю па факту знікнення дачкі. Аднак цела знайшоў рыбак толькі праз тры тыдні на беразе Нёмана ізноў паблізу Зарыцы. Паводле словаў тых, хто апазнаў дзяўчыну, на целе яе былі сінякі, адзенне парванае. Зніклі новая скураная куртка і сумка.

У ліпені была ўтоплена ў Нёмане ля Зарыцы Люда Кодзік. У жніўні згвалтаваная і задушаная Вера Воранава. У верасні знойдзена невядомая дзяўчына, таксама ўтопленая ў Нёмане. У тым жа месяцы знойдзены абгарэлы труп Г.Азізавай. У кастрычніку знікла 20-гадовая Галіна Паўлоўская. Гэты трагічны спіс можна працягваць доўга. Адпаведна дадзеным абласной пракуратуры, на сённяшні дзень каля 20-ці маладых жанчынаў і дзяўчатаў лічацца ў вышуку.

Шэсць вышэйназваных справаў аб'яднаныя ў адну групу па прыкладна падобных абставінах справаў. Напачатку следства схілялася да таго, што прычынамі смерцяў дзяўчатаў стала самагубства. Справа Вольгі Шор была прыпыненая і толькі пасля шматлікіх скаргаў бацькоў распачалася зноў. Да таго ж, у ходзе следства ў бацькоў узніклі пытанні і абурэнне. А бацькі Волі гавораць, што з самага пачатку, калі толькі былі знойдзены дзяўчаты, работнікі міліцыі не зрабілі ўсё, што належала: судмедэксперт не выязджаў на месца трагедыі, не праводзілася абследванне берага і г.д. Ёсць яшчэ адна дзіўная акалічнасць: цела Вольгі Шор было забальзамавана без ведама і апазнання бацькамі. Бацькі ахвяраў звярталіся ва ўсе мажлівыя інстанцыі, каб паскорыць следства і знайсці вінаватых у смерцях безабаронных дзяўчатаў: у рэспубліканскую пракуратуру, МУС, Адміністрацыю прэзідэнта. Выконваючы абавязкі начальніка аддзела па нагляду за следствам пракуратуры вобласці Ю.Г.Буйко у афіцыйным лісце Святлане Іванаўне Шор, маці Волі, напісаў: «устаноўлена, што ў ходзе расследавання справы не выкананы ў поўным аб'ёме усе магчымыя следчыя работы па ўстанаўленні абставінаў яе (Волі) гібелі і асобаў, што маюць дачыненне да падзеяў».

Аднак да гэтай пары справа вядзецца па артыкуле 105 (давядзенне да самагубства). Бацькі ж дзяўчатаў з гэтым не згодныя, лічаць, што іх дзеці былі забітыя, і настойваюць на змяненні артыкула.

**Па каментар мы звярнуліся ў Гарадзенскую абласную пракуратуру. Станіслаў Брунін, начальнік следчага аддзела, які вядзе справу, гаворыць:**

*- Усё, што неабходна, робіцца, створана следчая група, да работы падключаныя аператыўныя службы РАУС, УУС. Мы апрацоўваем кожную падазроную групу. Пакуль мы не можам рабіць дакладныя высновы, няма ніякіх зачэпак. Справа знаходзіцца на мяжы і можа павярнуць туды ці сюды, бо абставіны гэтых шасці выпадкаў адрозніваюцца. Да работы прыцягнутыя лепшыя следчыя горада і вобласці.*

Адпаведна дадзеным прэс-канферэнцыі УУС Гарадзенскага аблвыканкама, Гарадзенская вобласць заняла другое месца па паказчыках злачыннасці ў рэспубліцы, з чым работнікі міліцыі і былі павіншаваныя самім міністрам УУС Рэспублікі Беларусь. Разам з тым, па раскрываемасці забойстваў наша вобласць толькі на пятым месцы. Амаль палова злачынстваў на Гарадзеншчыне - цяжкія.

- А як жа нашыя дзеці? Няўжо дзеля добрых паказчыкаў працы міліцыянераў, за якія ім плацяць прэміяльныя, мы так і не даб'емся праўды? Забойцы, альбо забойца перачакаюць зіму і пачнуць далей ўчыняць свае суды над бязвіннымі ахвярамі, схаваўшы сляды злачынстваў у Нёмане. Да якіх пор мы будзем знаходзіцца ў няведанні? - абураецца Святлана Іванаўна Шор.

Пакуль вядзецца следства, сваякі і бацькі, што страцілі сваіх адзіных дачок, напісалі ліст-зварот да Аляксандра Лукашэнкі. Надзея памірае апошняй.

Алена Сіневіч

# На «Кондара» палююць па аўторках

**У аўторак двое падлеткаў жорстка збілі таксіста фірмы «Кондар». Бойка адбывалася а палове на другую ночы ля дома N90, што па праспекце Кляцкова.**

Мужчыну прывезлі ў шпіталь хуткай дапамогі праз 35 хвілінаў з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай і са страсеннем мазгоў.

Злачынцаў, двух 17-гадовых хлопцаў, схапілі хутка. Адзін з іх - ужо судзімы.

Зараз следчыя высвятляюць, ці звязаны гэты напад на таксіста з двума папярэднімі (гл. **ПАГОНЮ NN5,6**). Цікава, што палююць на таксістаў па аўторках, прычым на супрацоўнікаў фірмы «Кондар» нападалі ўжо двойчы.

Юлія Дарашкевіч

# «Не трожце музыку рукамі»!

**З адкрыццём малой канцэртнай залы філармоніі музычнае жыццё Гродна заўважальна ажывілася. Вось і на мінулым тыдні горад над Нёманам прымаў на гэтай сцэне музыканта з Польшчы Войцеха-Дарыюша Папеляша. Гарадзенцы любяць класічную гітару, у нас свая школа гітарыстаў, свае традыцыі. Таму, нягледзячы на параўнальна высокі кошт квіткоў, дзевятага лютага канцэртная зала не была пустой. Наведала гэты канцэрт і я.**

Аб узроўні ігры Войцеха-Дарыюша Папеляша пісаць не буду. Маўляў, «не страляйце ў музыканта, ён грае, як умее». Скажу пра тое, што сапраўды абурыла і ўразіла.

Гітара - інструмент вельмі высакародны і рамантычны. Яна патрабуе адмысловага настрою, своеасаблівай атмасферы ў канцэртнай зале і добрага канферансу, паколькі слова на канцэрце папярэджвае музыку, дае слухачу першы штуршок для яе ўспрымання. У афішах аб канцэрце польская госця была пазначана, што весці яго будзе старшыня асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны В.Радыёнаў. «Нарэшце, - падумала я, - філармонія наважылася запрасіць прафесіянала, музыказнаўца, які глыбока і пранікнёна распавядзе гарадзенскай публіцы пра таямніцы класічнай гітары». Да гэтага канцэрта я не была знаёма з В.Радыёнавым, не ведала ягоных твораў, нават не чула пра іх і разлічвала, апрача добрай музыкі, запоўніць азначаны прабел у сваіх ведах. Цяпер, пасля канцэрта, я не толькі не хацела б знаёміцца з В.Радыёнавым, але маю вострае жаданне прасіць кіраўніцтва Гарадзенскай абласной філармоніі ніколі не запрашаць яго весці музычныя імпрэзы.

Ну бывае, ну забыўся вядучы, як завуць музыканта, чый выхад на сцэну ён абвяшчае. Але навошта кідаць у мікрафон рэпліку «Як там яго?». Ну не ведае старшыня асацыяцыі кампазітараў, што твор Торэса (дарэчы, не «Альгамбра», як паведаміў спадар Радыёнаў публіцы, а «Успамін аб Альгамбры»), прысвечаны старажытнай маўрытанскай крэпасці на поўдні Гішпаніі. Але навошта агучваць праз мікрафон банальнае «Гэта песня кахання. Сапраўдная песня кахання!»? Ну не адчувае В.Радыёнаў, што ён вядзе канцэрт у беларускім горадзе Гродна, а не ў расейскай глыбінцы. Але навошта да рускай народнай песні «Ивушка» ў апрацоўцы Я.Ларычава дадаваць, падміргваючы публіцы, словы «Родная стыхія»? Асобныя каментары старшыні асацыяцыі кампазітараў да музычных твораў выклікалі непераадавальна вясёлы настрой у зале: «Ну, карацей, гэта музыка калісьці даўно была напісана Каталоні, а пасля яе знайшлі», або «Вось такая дзіўная гішпанская назва, пэўна, крэпасць якая-небудзь» (апошняе - пра «Элегію» М.Таробы з сюіты «Замкі Гішпаніі», якая мае другую назву «Тарыха»). Са здзіўленнем даведалася, што ледзь не ўсе вядомыя гітарысты Беларусі - вучні спадара В.Радыёнава, і толькі абставіны перашкодзілі ім прысутнічаць на гэтым канцэрце. А ўся інфармацыя з галіны музычнай крытыкі сканцэнтраваная была вядучым у адной фразе: «А добра ён адчувае гішпанскую музыку!» Няма патрэбы далей згадваць усе «перлы», што прагучалі на канцэрце з вуснаў В.Радыёнава. Сорамна. Крыўдна за музыку, за Гродна - горад з высокай культурай і старажытнымі музычнымі традыцыямі. Цікава, ці прысутнічаў у зале хто-небудзь з адміністрацыі філармоніі? А ўзровень канферанса на гэтым канцэрце - правіла, ці выключэнне з яго? І ці праўда, што, як паведаміў В.Радыёнаў, ён і надалей будзе весці канцэрты па запрашэнню Гарадзенскай абласной філармоніі?

Калісьці А.Вазнясенскі, прапануючы «Правілы паводзінаў за сталом», параіў: «Руками еште даже суп, но с музыкой - беда такая! Чтоб вам не оторвало рук, не трожте музыку руками». Безумоўна, спадару В.Радыёнаву ніхто рук адрываць не збіраецца. Але тут справа больш важная, чым толькі прафанацыя аднаго канцэрта. Не ведаю, якімі сродкамі валодае Гарадзенская абласная філармонія. Пэўна, як і ўсе ўстановы культуры, яна больш разлічвае на дабрачыннасць, чым на бюджэт. Але ці нельга запрашаць на такія канцэрты сапраўдных спецыялістаў, прафесіяналаў-вядучых, сачыць не толькі за ўзроўнем выканаўцаў, якія выходзяць на сцэну, але і за мастацкім узроўнем усяго канцэрта? Пэўна, на гэта не пайшло б больш грошай, чым на ўтрыманне разгалінаванага адміністратыўнага штату філармоніі.

**Святлана Куль-Сяльверстава, загадчыца навукова-даследчай лабараторыі праблемаў рэгіянальнай культуры ГрДзУ, дацэнт**

ПОШТА ПОШТА ПОШТА ПОШТА

# Прашу даць шанец «зайцу»!

**Калі я ехала ў камандзіроўку ў Гродна 27 студзеня гэтага года, у мяне быў выдатны настрой. Некалі я вучылася ў Гродне, не была тут ажно 15 гадоў.**

Цягнік прыбыў у 7.12 раніцы. Я адразу ж - да прыпынку, каб даехаць да гатэля «Нёман». Запыталася ў людзей, ці можа хто прадаць білецік. Тыя, хто стаяў побач, сказалі, што і на вакзале ў гэты час талонаў не купіш. Іх можна набыць у кіроўцы, але толькі пяць. А ў мяне без рэшты было толькі на адзін талон.

Падышла «тройка». Я ледзьве праціснулася з чамаданам у апошнія дзверы, прысела і гучна папрасіла ў людзей білецік. Хутка аўтобус спыніўся. І мяне з сотняй у руцэ на гэтым жа прыпынку «схапілі» і выпхнулі з аўтобуса. З кантралёркаю быў міліцыянт.

«В отделение, жэншчына, и попробуй не заплаці!» - так за маёй спіною роў міліцыянт. «Отделением» аказаўся вялізны аўтобус N09-48 ГКО, спецыяльна прызначаны для «зайцоў». Такіх, як я, там было ўжо багата.

Праз хвілін 30-40 (на вуліцы ўжо развіднела) прыйшла кантралёрка і «ашчаслівіла» мяне на 1800 рублёў. Я прыгразіла скаргай. Але пачула толькі нахабны смех у адказ. Кантралёру, які чакаў чарговай «тройкі», я паказала сваё службовае пасведчанне і папрасіла яго зрабіць тое ж. У мяне пад носам нахабна памахалі вокладкай пасведчання са словамі «глядзі, глядзі!». На вочы навярнуліся слёзы. Вось і ўся гісторыя. Падчас трохдзённай камандзіроўкі я прааналізавала маршрут аўтобуса N3 я прыйшла да высновы, што менавіта на гэтым прыпынку ля чыгункі хапаюць «ахвяраў» - выпадковых людзей - і менавіта раніцай, а потым, як выканаюць план, плююць у столь.

Але ж сітуацыі бываюць розныя. Не шкада грошай. Шкада стану душы. Так непрыемна чуць абразы: «жэншчына», «мы все чэсныя».

Я вось параўноўваю з чыгункай: там спярша прапануюць білецік, а толькі потым просяць яго прад'явіць. Інакш кажучы, даюць шанец.

Ніна Рыгораўна, г.Кобрын

# Забілі і кінулі на дарозе

**У нядзелю ранкам жыхары Путрышак знайшлі непадалёк ад сваёй вёскі мёртвага мужчыну. Жывот бедака быў прастрэлены з абрэза паляўнічай стрэльбы, а ў шыі эксперты знайшлі шарык з пнеўматычнай вінтоўкі. Злачынцы не сталі хаваць труп, а проста кінулі яго на абочыне дарогі, дзе ён і праляжаў усю ноч.**

Забіты быў гарадзенцам, меў 34 гады і тры судзімасці за хуліганства.

Гарадзенскія следчыя мяркуюць, што злачынцаў было некалькі. Адзін з іх, які падазраецца ў злачынстве, ужо затрыманы.

Юлія Дарашкевіч

# Людзі ў белых халатах

**Нядаўна на базе слонімскіх калгасаў адбыўся абласны семінар аграрнікаў. Гэтае мерапрыемства было паказана па гарадзенскім тэлебачанні. Размова ішла пра тое, як да нас прыехалі кіраўнікі самых перадавых гаспадарак Гарадзеншчыны, каб на месцы даведацца: чаму мясцовыя каровы даюць у суткі па шэсць кілаграмаў малака, а не болей? Уся выязная брыгада была падзеленая на групы, якія раз'ехаліся па фермах.**

Відэакамера зафіксавала, як самавітыя мужчыны хадзілі між шарэнгаў рагуляў, глядзелі: што тыя ядуць, што п'юць. Сёй-той з удзельнікаў быў апрануты ў белы халат. Праўда, я вось ніяк уцяміць не магу: навошта ў кароўніку такое спецадзенне? Калі для таго, каб, барані Божа, не занесці нейкую заразу, - то там сваёй больш, чым трэба. Ці каб смуродам не прапахлі скураныя дублёнкі наведвальнікаў? Тады зразумела. Рэч акурат да месца. Бо па сюжэтах было бачна, што людзі аглядзелі шмат вытворчых аб'ектаў. Адразу ж на месцах абмяркоўвалі тое, што ўбачылі, што пачулі. Карацей, народ працаваў. Пра тое сведчыць і агульная нарада, якая прайшла ўжо ў памяшканні пасля інспектавання.

Падчас нарады спецыялісты па чарзе выходзілі на трыбуну і гаварылі ўсё, як ёсць. У прыватнасці, на думку старшыні калгаса імя Дзеньшчыкова Гарадзенскага раёна, у слонімскіх гаспадарках нізкая прадукцыйнасць у жывёлагадоўлі таму, што не хапае кармоў, а тыя, што назапашаныя - нізкай якасці, дрэнна працуюць селекцыянеры ды інш., і як вынік, сярэднегадавы надой малака ад каровы па раёну летась склаў 2083 кілаграмы, на 150 кілаграмаў меней, чым у папярэднім годзе.

Гэты кіраўнік не проста тэарэтычна вучыў слонімцаў, як трэба працаваць. У яго калгасе адна рагуля ў сярэднім дае ўдвая болей - 4000 кг малака ў год. Канешне, гэта не тое, што ў Галандыі ці ў Ізраілі, дзе ад каровы надойваюць па 11000 кілаграмаў. І тым не менш.

Праўда, трэба адзначыць, што малочны спад назіраецца не толькі на Слонімшчыне. Падобная сітуацыя і ў іншых раёнах нашага некалі перадавога заходняга рэгіёну. У параўнанні з 1990 годам, Гарадзенская вобласць знізіла вытворчасць малака на карову на адну тысячу кілаграмаў. Вось і вырашалі ўдзельнікі семінару, што трэба зрабіць так, каб зноў дасягнуць рубяжоў 10-гадовай даўніны. Шкада, што тэлебачанне гэты адказны момант пакінула па-за кадрам. Але трэба думаць, што ўсе прыйшлі да адзінай мудрай высновы, якую напрыканцы перадачы агучыў сам старшыня Аблсельгасхарчу Вячаслаў Касцюк. Ён заявіў, што ўсім неабходна лепей працаваць.

Аднак, мусіць, ні адзін з прысутных калгасных начальнікаў на той час не прызнаў бы сябе гультаём альбо няўмекам. Наадварот, пры выпадку сказаў бы: кручуся штодня, нібы вавёрка ў коле, без выхадных, без адпускоў. А што ўрэшце маю? ГАЗік там службовы, невялічкі катэджык, сякуютакую зарплату. А тое, што каровы не дояцца, дык адкуль малаку быць? Даходы ледзь пакрываюць выдаткі. Грошай не хапае на паліва, новую тэхніку, абсталяванне і шмат што іншае. Нават шматмільённыя крэдыты, якія дзяржава потым дарue, не выратоўваюць. Колькі старшыняў ужо змянілі, а зрухаў да лепшага - аніякіх. Паціху сунемся ў бездань.

Самае страшнае ў дадзеным выпадку, што тыя ж самыя кіраўнікі-аграрыі, у сваёй большасці, добра разумеюць, дзе той сабака закапаны, які цягне вёску ў багну. Але адна справа - разумець, а другая - дзейнічаць. Таму і не здраджваюць яны ўсталяванаму прынцыпу: будзь як усе, і будзеш жыць. Так спакайней, бо пайсці насуперак - яшчэ страшней.

**Віктар Валадашчук**

# Не пасеялі, а зжалі

**Яшчэ не ўзарана поле, не апрацавана ды не пасеяна збажына, а ў Мастоўскім райвыканкаме ведаюць, які будзе ўраджай. І з гэтай нагоды сесія раённага Савета прыняла адпаведную пастанову, згодна з якой раён павінен прадаць дзяржаве ў бягучым годзе 13 430 тонаў зерня.**

Каб супрацьстаяць прыродзе, таксама прынята пастанова, дзе ёсць пункт, які патрабуе, каб састарэлая тэхніка працавала бездакорна.

**М.Карпейчык**

# «Дайце людзям волю, і жыццё ў нас будзе не горш, чым у іншых»

**Спецыялісты незалежнай лабараторыі аксіяметрычных даследаванняў «Новак» правялі апытанне насельніцтва Беларусі. Яны высвятлялі стаўленне нашых суграмадзянаў да прадпрымальніцкай дзейнасці. І выявіліся цікавыя рэчы. Свой бізнес ёсць у 11-ці працэнтаў апытаных. Чатыры працэнты з гэтай колькасці ўжо не жадаюць працягваць гэтую справу. Сярод асноўных перашкодаў на шляху да прадпрымальніцтва ўдзельнікі апытання назвалі такія:**

- развіццю прадпрымальніцтва не спрыяе дзяржаўная палітыка;
- бізнес звязаны з крыміналам;
- грамадства нядобразычлівa ставіцца да бізнесоўцаў;

Гэтыя ды іншыя дадзеныя апытання лабараторыі «Новак» былі агучаныя на чарговым пасяджэнні гарадзенскага прэсклуба «Ініцыятыва», які дзейнічае ў рамках праекта МФК. І для журналістаў, і для экспертаў, якія прыйшлі на пасяджэнне, новая інфармацыя стала штуршком для роздуму і абмену думкамі.

**Раіса Патапава, намесніца старшыні абласнога тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва ды інвестыцый:**

- За мінулы год у рамках абласной праграмы падтрымкі прадпрымальніцтва мы выдаткавалі 120 мільёнаў рублёў, падтрымалі 22 праекты. Сёлета мяркуем затраціць на гэта ўжо 200 мільёнаў рублёў. Прыярытэты аддаем сельскім раёнам вобласці, але часцей за ўсё да нас звяртаюцца гараджане.

**Лілія Ёда, галоўная спецыялістка камітэта па эканоміцы і рынкавых адносінах аблвыканкама:**

- Вельмі актуальная цяпер перарэгістрацыя. Па вобласці перарэгістрацыю прайшло болей за 10 тысяч прыватных прадпрымальнікаў пры агульнай іх колькасці на момант прыняцця прэзідэнцкага Дэкрэта - 17 600. Ускладняе гэтую працэдуру тое, што дагэтуль у краіне не створаны адзіны рэгіструючы орган.

**Галіна Кандыбовіч, дырэктарка гарадзенскага філіяла Беларускага фонда фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў:**

- Многія людзі хацелі б пачаць сваю справу, але пабойваюцца. Важна, каб яны адчулі, што з боку дзяржавы ёсць падтрымка. Дайце ім волю, і жыццё ў нас будзе не горш, чым у іншых. За апошнія гады нажыліся тыя, хто быў бліжэй да кармушкі. Засталася разбітая дзяржаўная прамысловасць, якая не падымецца. Так што само жыццё прымусіць людзей ісці ў прадпрымальніцтва.

**Франц Мамуль, старшыня праўлення гарадзенскага клуба прадпрымальнікаў:**

- 2001 год - вельмі сур'ёзны. Народ ужо задумваецца над сваёй будучыняй. Ён прыстойны і працавіты. Адзінае сёння слабое месца - няведанне заканадаўства. Таму мы рыхтуем праект у рамках еўрапейскай праграмы TACIS па стварэнні ў Гродне Інфармацыйнага цэнтра для прадпрымальнікаў. Рухаем наперад і справу па арганізацыі таварыстваў узаемнага крэдытавання. Спадзяемся на падтрымку МФК і Сусветнага банка.

Гэта было ўжо пятае па ліку пасяджэнне прэс-клуба «Ініцыятыва». Пакрысе ён напрацоўвае свой патэнцыял, пашырае магчымасці. У вядучай прэс-клуба Галіны Карыпідзі ды яе калег з гарадзенскага аддзялення Міжнароднай фінансавай карпарацыі шмат цікавых планаў па правядзенні наступных пасяджэнняў. Бліжэйшае з іх па часе адбудзецца ўжо ў сакавіку.

**Пётр Разумовіч**

# «Чаўнакам» стане лягчэй?

**8 лютага 2001 года афіцыйна апублікавана новае Палажэнне «Аб парадку перамяшчэння фізічнымі асобамі праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь тавараў, не прызначаных для вытворчай або іншай камерцыйнай дзейнасці». Палажэнне зацверджана Указам Лукашэнкі N57 ад 5 лютага 2001 года.**

Раней указаны парадак рэгламентаваўся пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь N339 ад 9 сакавіка 1999 года. Як указана ў афіцыйным каментары да Указа прэзідэнта N57, практыка выкарыстання гэтай пастановы паказала, што асобныя яго нормы маюць патрэбу ва ўдакладненні.

Адпаведна артыкулу 11 Палажэння, зменены (адменены) некаторыя мытныя пошліны і плацяжы, а таксама ўмовы перамяшчэння тавараў не для камерцыйных мэтаў. Думаем, што чытачам ПАГОНІ будуць цікавымі звесткі пра наступныя змены.

### Цалкам вызваляюцца ад выплаты мытных плацяжоў пры ўвозе ў Рэспубліку Беларусь:

- асабістая маёмасць, за выключэннем транспартных сродкаў, сельскагаспадарчай прадукцыі, набытыя за межамі мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, мытны кошт якой не перавышае суму, эквівалентную 1000 даляраў ЗША;
- тавары не для камерцыйных мэтаў незалежна ад іх мытнага кошту, у тым ліку мэбля і адзін транспартны сродак, якія ўвозяцца асобай, што перасяляецца ў Рэспубліку Беларусь на сталае месца жыхарства, пры ўмове іх увозу на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь з краіны папярэдняга пражывання на працягу шасці месяцаў з даты прыбыцця на сталае месца жыхарства асобы, якая ўвозіць такія тавары;
- сельскагаспадарчыя прадукты на аднаго чалавека: 1) агульнай вагой да 50 кілаграмаў незалежна ад краіны паходжання і ўвозу; 2) агульнай вагою да 100 кілаграмаў, якія паходзяць і ўвозіцца з краінаў Садружнасці незалежных дзяржаваў; 3) прызначаныя для спажывання ў дарозе;
- не больш як тры літры алкагольных напояў, 200 цыгарэтаў або 200 грамаў тытуню ці іншых тытунёвых вырабаў на аднаго чалавека, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту;
- не больш як пяць адзінак ювелірных выбараў, тры прадметы адзення з натуральнай скуры і (або) футра, адна адзінка відэазапісвальнай і відэаўзнаўляльнай апаратуры на аднаго чалавека, кошт якіх не перасягае 1000 даляраў ЗША;
- транспартныя сродкі, якія часова ўвозяцца нерэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь, што часова працуюць у Рэспубліцы Беларусь, або членамі іх сем'яў, акрэдытаванымі (зарэгістраванымі) Міністэрствам замежных справаў або Нацыянальным банкам на тэрмін такой акрэдытацыі (рэгістрацыі); таксама транспартныя сродкі, зарэгістраваныя ў замежных дзяржавах і часова ўвозімыя нерэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь, якія часова вучацца ў Рэспубліцы Беларусь, на тэрмін свайго навучання на тэрыторыі Беларусі, але не больш як на тры гады, ды іншымі нерэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь на тэрмін свайго знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, але не больш як на тры месяцы.




У адпаведнасці з артыкуламі 6 і 7 Палажэння,

### забараняецца вываз з Рэспублікі Беларусь фізічнымі асобамі лому і адходаў чорных і каляровых металаў тэхнічнага прызначэння,

уключаючы паўфабрыкаты і загатоўкі; забароненыя да перамяшчэння праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь фізічнымі асобамі: агнястрэльная зброя і боепрыпасы, вайсковая амуніцыя, наркатычныя, псіхатропныя, атрутныя, моцнадзейныя, радыеактыўныя і выбуховыя рэчывы.

Даволі цікавае абмежаванне з пункту гледжання свабоды слова, інфармацыі замацаванае ў пункце 1.2 артыкула 7 Палажэння: забароненыя да перамяшчэння праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь друкаваныя і аўдыёвізуальныя матэрыялы, іншыя носьбіты інфармацыі, якія могуць нанесці шкоду палітычным і эканамічным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, яе дзяржаўнай бяспецы, здароўю і маральнасці грамадзянаў...

**Кацярына Зволін**

# Краіна стукачоў запрашае...

На стэндах інфармацыі падатковых інспекцыяў з'явілася дзіўная аб'ява, якая заклікае падаткаплацельшчыкаў, а ў першую чаргу прадпрымальнікаў, што давоі часта вымушаны былі звяртацца сюды, карыстацца тэлефонам даверу Дзяржаўнага падатковага камітэта Рэспублікі Беларусь і паведамляць пра ўтойванне грамадзянамі сваіх прыбыткаў ад падаткаабкладання. Пры гэтым ананімнасць гарантуецца.

**М.Карпейчык**

# З нас па-новаму бяруць!

**Напачатку лютага падрыхтаваныя адразу два праекты нарматыўнаправавых актаў, якія ў выпадку ўваходжання іх у юрыдычную сілу могуць істотна змяніць прававое рэгуляванне некаторых жыллёвых адносінаў.**

Нацыянальным цэнтрам заканапраектнай дзейнасці падрыхтаваны праект закона «Аб унясенні зменаў у Жыллёвы кодэкс Рэспублікі Беларусь». Праект прадугледжвае падзел «кватрплаты» для наймальнікаў на тры віды плацяжоў:

1) за карыстанне жылым памяшканнем;
2) за тэхнічнае абслугоўванне;
3) за камунальныя паслугі.

Падзел «кватрплаты» для ўласнікаў кватэраў плануецца на два віды плацяжоў:

1) за тэхнічнае абслугоўванне;
2) за камунальныя паслугі.

На нашу думку, плануемая канкрэтызацыя плацяжоў выкліканая рэалізацыяй дзяржаўнай праграмы набліжэння «кватрплаты» да сабекошту ўсіх так званых жыллёвых паслуг. У «вярхах» палічылі, што план падвышэння «кватрплаты» да 2004 года амаль у чатыры разы будзе не так балюча ўспрымацца насельніцтвам, калі рэалізоўваць яго паступова з драбненнем кватрплаты на некалькі плацяжоў. Аплата будзе паўляцца то на адну паслугу, то на другую...

Крыху інакшыя змены прававога рэгулявання жыллёвых адносінаў плануе Мінбудархітэктуры Рэспублікі Беларусь. Як стала вядома з дакладных крыніцаў, Мінбудархітэктуры падрыхтавала праект пастановы, у якім мяркуецца абмежаваць пералік апрацоўчых работаў, без якіх можна здаваць жылыя аб'екты, работамі па аклейцы шпалерамі ды ўсталяванні дашчанай падлогі. Так што бліжэйшым часам павінны «з'явіцца» змены ў пастанове Савета Міністраў аб дазволе здаваць аб'екты жыллёвага будаўніцтва без выканання апрацоўчых работаў. Усё гэта азначае, што ўжо з сакавіка бягучага года, напрыклад, ААТ «Гроднажылбуд» не зможа прадаваць гатовыя новыя кватэры без некаторых відаў аздобы. Патэнцыйным пакупнікам падобных кватэраў будзе навязвацца пэўная аздоба кватэры і манапольныя кошты на гэтае аздабленне.

**Сяргей Міронаў**

# Каго прынёс бусел?

**ПАГОНЯ віншуе бацькоў, сваякоў і блізкіх гэтых прыгожых немаўлятак! Народжаныя напярэдадні Дня святога Валянціна, яны прынясуць у гэты свет каханне і радасць!! Няхай на жыццёвым шляху ім заўсёды спадарожнічае ўдача!!!**



**Сын Таццяны і Вячаслава Астаф'евых. Нар.7.02; 2.850/50**



**Сын Дар'і ды Аляксандра Кучынскіх. Нар.8.02; 3.950/53**



**Сын Надзеі Вялікалужскай. Нар.10.02; 3.150/51**



**Сын Святланы і Аляксандра Шапялевічаў. Нар.10.02; 3.850/54**



**Сын Наталлі ды Зміцера Амельчанкаў. Нар.10.02; 3.850/55**



**Дачка Жанны і Генадзя Паўшок. Нар.6.02; 3.750/52**



**Сын Таццяны і Уладзіміра Дземешаў. Нар.6.02; 4.150/55**



**Сын Людмілы і Міхаіла Лебядзінскіх. Нар.7.02; 3.250/53**



**Дачка Наталлі ды Элхама Бейларавых. Нар.6.02; 3.450/52**



**Сын Наталлі ды Аляксандра Ялоўчыкаў. Нар.6.02; 3.650/52**



**Дачка Аліцыі ды Андрэя Радчанкаў. Нар.6.02; 3.600/53**



**Сын Наталлі ды Зміцера Дзеруновых. Нар.7.02; 3.700/53**



**Сын Людмілы і Віктара Хацянаў. Нар.5.02; 3.400/53**

**Шаноўныя бацькі нованароджаных, калі вы хочаце бачыць сваіх немаўлятак у нашай рубрыцы, просім папярэдне паведаміць пра гэта ў нашу рэдакцыю па тэлефоне: 72-29-96.**




1.Прыгажосць позы, рухаў цела. 2.Рака ў Касцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласці, якая цячэ па Аршанска-Магілёўскай раўніне; правы прыток Беседзі (басейн Дняпра). 3.Шырокая доўгая адзежына ў выглядзе плашча, якая апранаецца паверх другога адзення. 4.Тое ж, што і замець, завіруха. 5.Старажытнае гальскае паселішча-опідум, аблогай і ўзяццем якога Юлій Цэзар у 52 годзе да нашай эры скончыў шматгадовую гальскую вайну. 6.Старажытна-грэчаская эпічная паэма, аўтарства якой прыпісваюць Гамеру. 7.Так кажуць пра што-небудзь прыгожае, узвышанае (перан.).

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N6 (502)**

1.Калган. 2.Засень. 3.Васпан. 4.Сапфір. 5.Гарпун. 6.Аазісы. 7.Баляса. 8.Ваўчок.



## Дзевяць плюс адзін



**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Лічыцца, што менавіта 14 лютага, калі зіма ўжо блізіцца да свайго завяршэння, калі вельмі хутка прыйдзе вясна, пара абуджэння, кахання і цяпла,..**

**а)** прачынаюцца пасля зімовай спячкі мядзведзі;

**б)** птушкі выбіраюць сабе пару;

**в)** ні ў якім разе нельга сварыцца з каханым чалавекам.

**2. У горадзе Аттумва (штат Аёва) нельга нават падміргнуць жанчыне, калі вы яе не ведаеце. А ў штаце Індзіянаполіс супрацьзаконна цалавацца, калі...**

**а)** побач знаходзяцца дзеці;

**б)** у вас ёсць вусы;

**в)** вы ці ваш(-а) партнёр(-ка) нападпітку.

**3. Джанет Джэксан знайшла замену былому бой-фрэнду. Чарговая пасія поп-прынцэсы - 28-гадовы (-ая)...**

**а)** Шоннет Херд;

**б)** Боббі Браун;

**в)** Наомі Кэмпбэл.

**4. У імператара Чжоу Сіна, які жыў у XI ст.да н.э., была адна царыца, дзевяць жонак другога рангу, 27 - трэцяга і 81 наложніца; святкаванні абслугоўвалі маладыя прыгожыя дзяўчаты. І было іх...**

**а)** 2000;

**б)** 1000;

**в)** 3000.

**5. Марсіянскае плата ля паўднёвага полюса якой планеты мае форму сэрца?**

**а)** Венеры;

**б)** Чырвонай;

**в)** Урана.

**6. У горадзе Хэлеторп (штат Мэрылэнд) пацалунак не павінен доўжыцца...**

**а)** паўхвіліны;

**б)** болей як хвіліну;

**в)** хвіліну.

**7. Прыгажуна Рыкі Марціна запрасілі на галоўную ролю ў рымэйку папулярнага 10 гадоў таму фільма «Брудныя танцы». Цяпер Патрыка Суэйзі і Джэнніфер Грэй заменяць рамантычны Рыкі і сексапільная Наталі Портман (к/ф «Леон»). У фільм ужо ўкладзена каля...**

**а)** 10 млн.даляраў;

**б)** 15 млн.даляраў;

**в)** 20 млн.даляраў.

**8. Як паведамляюць журналісты ВВС, мошчы святога Валянціна знаходзяцца ў ...**

**а)** Дубліне;

**б)** Венецыі;

**в)** Парыжы.

**9. У свае 60 гадоў каралева року цудоўна выглядае. Вось ужо 10 гадоў жыве яна са сваім 46-гадовым бой-фрэндам Ірвінам у сапраўдным палацы ў Ніцы. Размова пра ...**

**а)** Кэмеран Дзіяс;

**б)** Ціну Цёрнэр;

**в)** Алену Ханга.

**Правільныя адказы:**

1б, 2б, 3а, 4в, 5б, 6б, 7в, 8а, 9б

**Дзевяць** правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, **менш** як **3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Амерыканскага неўролага і псіхіятра А.Пухарыча настолькі ўразіла праца хілера (чалавека, які валодае метадамі лячэння, заснаваных на выкарыстанні псіхічнай энергетыкі) Жазэ Педра дэ Фрэйтаса, які на яго вачах правёў 200 аперацыяў за чатыры гадзіны, што ён... Паспрабуйце распавесці, што ж было далей.**

**Адказ на дзесятае пытанне мінулага конкурсу (гл. ПАГОНЮ N500 ад 25 студзеня г.г.)** павінен быў гучаць наступным чынам: у Балгарыі ды Сербіі ў сцены вежаў і цытадэляў падчас будоўлі нярэдка замуроўвалі маладых жонак будаўнікоў. Жах які, праўда? Дасылайце свае адказы - гэтым разам вам павінна пашчасціць!



## Гараскоп



♈ **Баран (21.03-20.04).** Вас чакае тыдзень, спрыяльны для візітаў і прыёму гасцей. Энергічнасць і аптымізм зробяць Вас душою кампаніі ў суботу і нядзелю.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Другая палова тыдня прыдатная для забаваў, разняволення і новых цікавых і каштоўных знаёмстваў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Паспрабуйце не паддавацца адмоўнаму ўплыву нядобразычліўцаў. Часцей усміхайцеся! Дадайце ў свой штодзённы рацыён вітамінныя прэпараты.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Не выяўляйце празмернай чуллівасці і даверлівасці - пазбегнеце непрыемнасцяў. Удалы для дзелавых кантактаў дзень - чацвер.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Разлічвайце толькі на свае сілы, з лёгкасцю адолееце ўсе перашкоды. Не зважайце на зайздроснікаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Поспех і ўдача - на Вашым баку. Дзейнічайце! Дзякуючы Вашай камунікабельнасці справы пойдуць угору.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Надайце больш увагі сям'і. Справы пачакаюць. Варта неяк разнастаіць стасункі з каханым(-ай).

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Інтуіцыя дапаможа Вам знайсці правільны накірунак у працы.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вас чакаюць даволі супярэчлівыя дні. Пазбягайце пралікаў і звадак. Вы здолееце залагодзіць усе непаразуменні з калегамі. Ёсць верагоднасць, што спаткаецеся з даўняй сімпатыяй.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Прыўзняты настрой дазволіць Вам знаходзіцца на плыву нягледзячы ні на што. Зоркі раяць Вам не распачынаць новых рамантычных адносінаў.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Недарэчныя выказванні ці нетактоўнасць толькі перашкаджаюць Вам жыць спакойна. Больш стрыманасці!

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Адзіны спосаб пазбегнуць на гэтым тыдні непрыемнасцяў - не псаваць настрой сабе і людзям.

**ПАГОНЯ**
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 14.02.2001 г.
Замова 588 Наклад 7 722

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,**
камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**